# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Субота, 11 чэрвеня 1994 года

№ 61 (10761)

Цана 100 руб.


■ ПРЭЗІДЭНЦКІ МАРАФОН

## БУДЗЕ ПРЭЗІДЭНТ, КАЛІ...

...за каго-небудзь з цяперашніх кандыдатаў у першым туры выбараў прагаласуе хоць бы 3 мільёны 674 тысячы 856 выбаршчыкаў. Менавіта такая лічба на 1 чалавека перавышае палову ўнесеных у спісы для галасавання. Паводле звестак, якія ёсць у Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, усяго ў галасаванні маюць права прыняць удзел 7 мільёнаў 349 тысяч 710 чалавек.

Па Брэсцкай вобласці ў спісы для галасавання ўнесена 1.045.778 чалавек, па Віцебскай — 1.036.088, па Гомельскай — 1.132.824, па Гродзенскай — 860.754, па Магілёўскай — 884.330, па Мінскай — 1.152.576. У сталіцы рэспублікі ў спісы для галасавання ўнесена 1.237.360 выбаршчыкаў.

Дакладных даных аб грамадзянах рэспублікі, якія будуць галасаваць за мяжой, пакуль няма, аднак, паводле папярэдніх даных, гэтая лічба не перавысіць 2.000 чалавек.

## Назіральнікі на выбарах — атрыбут дэмакратыі

У Цэнтральную камісію па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь падалі ўжо дакументы на акрэдытацыю шэсць прадстаўнікоў ад міжнародных арганізацый. Пакуль за ходам выбараў выказалі жаданне сачыць назіральнікі ад Савета па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і Еўрапейскага інстытута па сродках масавай інфармацыі. Чакаецца, што ўсяго такіх назіральнікаў будзе 20 — 30 чалавек, што па міжнародных нормах няшмат.

Цэнтральная камісія па выбарах Прэзідэнта не бярэцца прагназіраваць, колькі назіральнікаў з краін СНД, ад палітычных партый і грамадскіх аб"яднанняў будуць 23 чэрвеня сачыць за правядзеннем выбараў першага Прэзідэнта Беларусі. Не прынята пакуль рашэнне і аб рэгіёнах, у якіх змогуць працаваць замежныя назіральнікі. Зрэшты, як удалося высветліць карэспандэнту БЕЛІНФАРМа, хутчэй за ўсё прадстаўнікам міжнародных арганізацый будуць адкрыты ўсе рэгіёны Беларусі.

БЕЛІНФАРМ.

# ЗА КАГО ПРАГАЛАСУЕМ?

Гэтае пытанне сёння гучыць, мабыць, часцей, чым традыцыйнае: "Як справы?" Сапраўды, цікавасць да першых у Беларусі выбараў Прэзідэнта надзвычай вялікая. І калі гэтае пытанне я задаў аднаму з работнікаў Салігорскага гарвыканкома, то раптам пачуў:

— Думаеце, людзі так і раскрыюць душу? Пры апытаннях хваліць могуць аднаго, а ў дзень выбараў выкрасляць яго першым. Магчыма, з-за страху перад уладамі сённяшнімі і заўтрашнімі, ад якога мы пакуль што не пазбавіліся. Успомніце: не так даўно ў нашых суседзяў прапаганда ўбівала ў галовы, што з вялікім адрывам пераможа партыя "Выбар Расіі". А больш за ўсіх галасоў набраў хто? Жырыноўскі. Такое можа здарыцца і ў нас.

— Асабіста вы за каго галасаваць будзеце?

— Вядома, за Кебіча, гавару ўсім, бо ён нам, служачым дзяржаўнага апарату, абяцае 40 працэнтаў дабаўкі да акладу. А непасрэдна 23 чэрвеня — паглядзім...

Пасля гэтай размовы мяне яшчэ больш зацікавіла пазіцыя салігорцаў наконт выбараў Прэзідэнта Беларусі. Вось некаторыя з адказаў. Шчырыя яны ці не — меркаваць не мне.

**А.І.ДАВЫДОВІЧ, шахцёр Трэцяга рудніка вытворчага аб"яднання "Беларуськалій":**

— Я — за Пазняка. Падабаецца яго вернасць сваёй ідэі, зямлі роднай. З усіх прэтэндэнтаў ён найбольш актыўна абараняе інтарэсы нас, беларусаў. І як палітык, даволі прадбачлівы. Успомніце: амаль усе ідэі БНФ, якія спачатку многімі ўспрымаліся ў штыкі, сёння ў той ці іншай ступені ажыццяўляюцца. Падабаецца грамадзянская смеласць, мужнасць, з якой ён змагаецца са старым, аджыўшым. І лозунг яго: "Усе злачынцы павінны сядзець у турме!" я падтрымліваю цалкам.

**І.А.КРУКОВІЧ, старшыня калгаса "Трэці рашаючы":**

— Хутчэй за ўсё спынюся на кандыдатуры Лукашэнкі. Іншыя прэтэндэнты таксама маюць свае вартасці — вучоны, эканаміст, гаспадарнік... Але ў Лукашэнкі ёсць галоўнае, што патрабуецца сёння: жаданне змагацца са злачыннасцю, карупцыяй, якая раз"ядае наша грамадства, імкненне неяк абараніць простага чалавека ад тых, хто з усіх бакоў яго абкрадвае. Нарэшце, асабістая сумленнасць кандыдата па нашым часе якасць вельмі каштоўная. Бо калі б у біяграфіі Лукашэнкі былі нейкія плямы, тыя, каго ён выкрывае, ужо даўно растапталі б яго... Я бачу, што за Лукашэнку гатовы аддаць свае галасы і многія нашы калгаснікі. Аб чым яны адкрыта гаварылі пры зборы подпісаў за іншых кандыдатаў.

**М.В.ШАРКО, выкладчык горна-хімічнага тэхнікума:**

— Да канца яшчэ не вызначыўся. Дзейнічаю метадам выключэння. Пазняк? Не. Вельмі ўжо агрэсіўна настроены супраць расіян, з якімі карані нашы пераплецены моцна і непарыўна. Шушкевіч? Гаворыць прыгожа, абяцае многа, але мала робіць, што ўжо даказаў, будучы спікерам парламента. Дубко? Новікаў? Іх я зусім мала ведаю. Лукашэнка пры сваёй гарачлівасці можа "наламаць дроў". Выбар застаецца невялікі... Канчаткова яго зраблю 23 чэрвеня.

**Ф.А. СКРЫГАН, пенсіянер, інвалід вайны:**

— Буду галасаваць за Кебіча. Што б там ні гаварылі, але і ў гэты складаны час ён клапоціцца аб нас, пенсіянерах, павялічвае пенсіі. Інвалідам грошы падкідвае. Мы разумеем, што сродкі не з яго кішэні, з бюджэту. Але ж невядома, як будзе ставіцца да нас іншы чалавек на пасадзе Прэзідэнта... Думаў я і наконт Новікава. Ды, па ўсім відаць, ён не мае ніякіх шанцаў перамагчы.

**В.Т.ГАНЧАРОВА, кіраўнік Саюза прадпрымальнікаў:**

— Як і большасць прадпрымальнікаў, я ўскладала спадзяванні на свайго кандыдата, Карагіна. Вельмі шкада, што ён не набраў патрэбнай колькасці галасоў. А цяпер каго выбіраць? Шушкевіча? Кебіча? Дык яны ж, будучы пры ўладзе, амаль нічога не зрабілі для развіцця прадпрымальніцтва. Сёння нас літаральна душаць розныя падаткі, забароны. Быў вось Карпенка, чалавек адносна малады, з вытворчасці, які больш-менш разумеў нашы праблемы. Ды і той кандыдатуры не стала...

**Т.М.ПРАТАСЕНЯ, санітарка спелеалячэбніцы:**

— Я разумею, што праграмам кандыдатаў занадта давярацца нельга, папера ўсё вытрымае. Колькі гадоў ужо нам абяцаюць! Значыць, галасаваць патрэбна за нейкую канкрэтную асобу, а не за праграму. Тым не менш, канчатковы выбар зраблю толькі тады, калі больш дэталёва даведаюся, куды збіраецца нас весці кожны з кандыдатаў. Прагаласую за таго, хто зможа ці хаця б паспрабуе хоць неяк аблегчыць жыццё простых людзей.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*



■ Фоторепортаж

## ЗАГАДОЧНАЯ АББРЕВИАТУРА — УВД

Хотя что в ней загадочного? Здание как здание. Недавно здесь сдана пристройка. Расширяются ? Да нет. Разбросанные по городу службы управления внутренних дел области наконец обретут постоянную прописку, а сотрудники, сидящие бок о бок, — сносные условия для труда.

Если сказать честно, то мне импонирует слаженность, четкость действий сотрудников правопорядка на фоне всеобщей разрухи и упаднического настроения. И чтобы ни говорили о работниках милиции, сколько бы ни подвергали жесточайшей критике, с полным основанием могу заявить: это едва ли не единственная служба, которая не растерялась перед лицом вселенской опасности — криминальной чумы. Да, это фронт, проходящий через больное общество, вернее, — передовая линия фронта, где затяжная война идет с переменным успехом. Но, положа руку на сердце: сумели бы западные пинкертоны противостоять такому шквалу преступности, который разрастается словно снежный ком? Вряд ли. А наши доморощенные — могут. И борются, и вылавливают, и раскрывают.

Кабинет начальника управления внутренних дел облисполкома генерал-майора милиции Ивана Иосифовича Карповича весьма скромен: стулья, столы, телефонная связь, книги. Деловой кабинет делового человека, прошедшего всю лестницу милицейской иерархии. Куда там до современных офисов новоявленных бизнесменов, которые лбы расшибают, соревнуясь в помпезности и вычурности своих "гнездышек". А здесь все подчинено главному — работе, подчас невидимой, выматывающей силы и нервы.

/Окончание на 2-ой стр./



На снимках: дежурная часть УВД; поиски преступника можно вести и на экране.

## ЯКІМ БУДЗЕ ПЕРШЫ ЎКАЗ?

На гэтае пытанне ўжо можна даць адказ з той ці іншай ступенню верагоднасці, паколькі кандыдаты на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, як сведчаць публічныя выступленні, у сваіх поглядах вызначыліся. Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з работнікамі Мінскага маргарынавага завода заявіў, што першым падпісаным ім дакументам на вышэйшай пасадзе рэспублікі будзе ўказ аб барацьбе са злачыннасцю. У тым жа напрамку мае намер пачаць свае дзеянні і Аляксандр Лукашэнка. Яго праграма-мінімум на прэзідэнцкай пасадзе — вырашэнне кадравых пытанняў, у першую чаргу — адхіленне ад улады службовых асоб, замешаных у карупцыі.

Паводле слоў кіраўніка групы падтрымкі Зянона Пазняка Сяргея Навумчыка, першым указам лідэра БНФ, у выпадку, калі ён будзе выбраны на прэзідэнцкую пасаду, стане зняцце з пасады міністраў, якія курыруюць сродкі масавай інфармацыі. А вось Аляксандр Дубко і Станіслаў Шушкевіч маюць намер пачаць з вырашэння эканамічных праблем.

Не такая адназначная пазіцыя лідэра камуністаў. Як было заяўлена на першай прэс-канферэнцыі Васіля Новікава у якасці кандыдата на прэзідэнцкую пасаду, у выпадку пераканаўчай перамогі левых сіл, магчыма, яго першым указам будзе ўказ аб ануляванні прэзідэнцкай пасады. Калі ж гэтага не адбудзецца, то першым дакументам, які ён падпіша, будзе ўказ аб прыпыненні тых рынычных рэформ, якія мы маем на сённяшні дзень.

## КАБ НЕ ЎЗНІКЛА ВЫПАДКОВАСЦЕЙ

Адбылося расшыранае пасяджэнне абласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. На ім было заслухана пытанне "Аб рабоце Маладзечанскай і Барысаўскай гарадскіх і Чэрвеньскай раённай камісій па падрыхтоўцы і правядзенню выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". З інфармацыяй выступілі кіраўнікі названых камісій У.Сірота, П.Кірыкаў, У.Кулік.

На пасяджэнні адзначалася, што выбарчыя ўчасткі абсталяваны ўсім неабходным, складзены спісы выбаршчыкаў. У прынятым рашэнні звернута ўвага на забеспячэнне выбарчай кампаніі транспартам, сувяззю, падтрыманне грамадскага парадку. Каб ніякіх выпадковасцей ні напярэдадні выбараў, ні 23 чэрвеня не ўзнікла.

/НАШ КАР./.

## Ключевые вопросы

«Движение за демократию, социальный прогресс и справедливость» обратилось к кандидатам в Президенты Республики Беларусь А.И.Дубко, В.Ф.Кебичу, А.Г.Лукашенко и В.Н.Новикову с просьбой включить в свои платформы вопросы о государственном союзе с Россией, другими братскими республиками, об отмене вискулевских соглашений и признании результатов референдума 17 марта 1991 г.

Далее в этом письме подчеркивается, что нужно избрать социалистический, а не капиталистический путь развития, укрепить и развить Советы как органы подлинного народовластия, отменить в последующем институт президентства, являющийся антиподом Советской власти.

ДСПС считает, что в программах претендентов на высший государственный пост должны быть вопросы прекращения приватизации общенародной собственности, в том числе земли, и возвращение народу всего того, что у него отняли. До 3 июля с.г. — 50-летия освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков — упразднить осуждаемую народом нынешнюю государственную символику, восстановить праздник 7 ноября — годовщину Великой Октябрьской социалистической революции, ввести двуязычие.

ДСПС считает эти вопросы ключевыми в предвыборной агитации кандидатов в президенты.

/НАШ КОРР./.

ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## МПА: карысная размова

***Заўчора ў Вярхоўным Савеце адбылася прэс-канферэнцыя. З журналістамі сустрэліся Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб, выканаўчы сакратар СНД Іван Каратчэня, старшыня Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Міхаіл Слямноў, якія ўдзельнічалі ў рабоце сесіі Савета Міжпарламенцкай асамблеі СНД.***

Упершыню ў яе рабоце, падкрэсліў Мечаслаў Грыб, прынялі ўдзел кіраўнікі парламентаў Азербайджана, Арменіі, Кіргізіі, Казахстана, Расіі, Таджыкістана, Малдовы /спікер украінскага парламента не змог прыехаць з-за складанай палітычнай абстаноўкі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў/.

На сесіі разгледжаны ход выканання раней прынятых пастаноў, становішча ў Нагорным Карабаху, стварэнне міратворчых сіл і г.д. — усяго васемнаццаць пытанняў. Па многіх з іх дасягнута поўнае ўзаемаразуменне.

Размова на прэс-канферэнцыі выйшла за рамкі вызначанай тэмы. Журналістаў цікавіла, як будзе ажыццяўляцца аб"яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі. Мечаслаў Іванавіч адказаў, што ёсць дагавор, падпісаны двума прэм"ерамі. Для яго поўнай рэалізацыі неабходна падпісаць яшчэ каля трыццаці пагадненняў, а Вярхоўны Савет павінен прыняць рашэнне аб аб"яднанні грашовых сістэм. У бліжэйшы час, да выбараў Прэзідэнта, гэтае пытанне не будзе разглядацца. Ды і Канстытуцыя моцная тым, калі ў яе менш уносіцца змен. Мяняць жа яе артыкулы не збіраюцца.

Адказваючы на пытанне, за кошт чаго зніжаюцца цэны на шэраг харчовых тавараў, Мечаслаў Грыб заначыў, што ніхто з ім гэта не ўзгадняў. Маўляў, спытайцеся ва ўрада, ён лепш ведае.

Мечаслаў Іванавіч паведаміў журналістам, што атрымаў пасланне ад Назарбаева наконт стварэння еўраазіяцкага саюза. Канцэпцыя вельмі цікавая, адзначыў ён, і прадугледжвае роўныя ўмовы аб"яднання для ўсіх жадаючых, без аніякага асацыіраванага членства. Ні федэрацыі, ні канфедэрацыі не будзе. Магчыма гэтую канцэпцыю абмяркуюць на чарговай сустрэчы кіраўнікоў краін — членаў СНД. Яе змест будзе неўзабаве апублікаваны ў сродках масавай інфармацыі. Чарговае пасяджэнне Савета Міжпарламенцкай асамблеі адбудзецца 25 кастрычніка ў Санкт-Пецярбургу.

/НАШ КАР./.

## Цэны, аказваецца, могуць скакаць і ўніз

***Як сенсацыя ўспрымаецца на фоне цэн, якія пастаянна скачуць уверх, патанненне з 9 чэрвеня некаторых харчовых тавараў. Сваёй пастановай Савет Міністраў рэспублікі ўзяў "у цуглі" гандлёвыя надбаўкі і ўрэзаў іх усе да 10 працэнтаў, што дасць магчымасць пакупніку хоць крыху зэканоміць якую-небудзь суму грошай.***

.Напрыклад, вараная каўбаса, за кілаграм якой прыходзілася выкладваць 28.700 рублёў, цяпер каштуе амаль на чатыры з палавінай тысячы танней. На тры тысячы рублёў менш трэба будзе плаціць за кілаграм ялавічыны і на 3,5 тысячы — свініны. З чацвярга ў магазінах змяніліся цэннікі на хлеб і хлебабулачныя вырабы, субпрадукты, масла, якія рэалізоўваліся па свабодных цэнах.

Аналіз паказвае, падкрэслілі ў Дэпартаменце цэн пры Міністэрстве эканомікі рэспублікі, што асноўныя «накруткі» на тавар атрымліваюцца пры яго праходжанні ад вытворцы да пакупніка. Напрыклад, пры пастаўцы масла масласырзаводы, хладакамбінаты, звенні аптовага гандлю і Белкаапсаюза могуць падняць яго кошт да 70 працэнтаў. Таму ўрад, выключыўшы лішнія пасрэдніцкія структуры, і прыняў пастанову, якая дасць магчымасць знізіць розничныя цэны на некаторыя харчовыя тавары больш чым на 15 працэнтаў.

БЕЛІНФАРМ.

## Расці лясам

***Гэтай вясной калектыў Чырванашвабаўскага лясніцтва Лагойскага раёна пасадзіў 71 гектар маладых лясоў. Перавага аддадзена найбольш каштоўным пародам для Беларусі — сасне і елцы.***

Пад кіраўніцтвам ляснічага Станіслава Дамінікавіча Грынкевіча, які трыццаць гадоў прысвяціў лясной гаспадарцы, зарэкамендаваў сябе ўмелым кіраўніком, на высечках догляду маладых лясоў праведзена работа на 279 гектарах. З пачатку года лесаводы нарыхтавалі 4.009 кубаметраў драўніны. Цэхам перапрацоўкі дастаўлена яе 1.416 кубаметраў, у тым ліку на экспарт у Фінляндыю — 151 кубаметр.

Залогам поспеху сталі высокая дысцыпліна і зладжанасць у рабоце калектыву лясніцтва. Тут раўненне трымаюць на перадавікоў, сярод якіх леснікі браты А.І. і І.І.Ліпскія, М.В.Грынь, трактарыст А.В.Савіцкі.

/НАШ КАР./.

■ Са святам і юбілеем

# ПРОМНІ "ПРАМЕНЯ"

***Заўтра — Дзень работнікаў лёгкай прамысловасці. Калектыў жа мінскага вытворчага абутковага аб'яднання "Прамень" будзе адзначаць не толькі прафесійнае свята, а і свой юбілей — яму 70 гадоў. Абутковае аб'яднанне створана на базе абутковай майстэрні. У першы год тут працаваў 181 чалавек, з іх толькі адна жанчына. За 1924 год выпусцілі 3.761 пару абутку. Сёння ж "Прамень" з'яўляецца адным з флагманаў лёгкай прамысловасці рэспублікі.***

Не адно дзесяцігоддзе знаёмы з аб'яднаннем. Даводзілася пісаць не толькі ўзнёслыя артыкулы пра калектыў. Былі ў яго і такія перыяды, калі хто толькі не крытыкаваў за нізкую якасць прадукцыі, яе бедны асартымент. Сёння ж абутак «Праменя» па праву лічыцца лепшым у Беларусі. І гандаль, і пакупнікі сцвярджаюць, што ён пераўзыходзіць вырабы і славутага «Белвеста».

Трымаць марку ў наш крызісны час нялёгка. Вакханалія ў эканоміцы з'яўляецца магутным тормазам у сацыяльна-вытворчым развіцці. Не пазбеглі ў аб'яднанні і зніжэння выпуску абутку — з 12 мільёнаў пар да 7. Аднак, хаця аб'ёмы і ўпалі амаль на 40 працэнтаў, людзі засталіся на сваіх рабочых месцах. А колькі разоў даходзілі да мяжы — няма сыравіны, трэба скарачаць кадры. Сёлета ў сакавіку ўжо хацелі звальняць. У першую чаргу тых, хто выпускаў дзіцячы абутак. Аднак устрымаліся. Для іх знайшлі часовы занятак. Перакідвалі асартымент з аднаго цэха ў другі. І выстаялі. Збераглі высокакваліфікаваных спецыялістаў.

У аб'яднанні нямала заслужаных ветэранаў. Сярод іх — раскройшчыца матэрыялаў Ганна Уладзіміраўна Кісель, зборшчыца абутку Ірына Уладзіміраўна Ясючэня, грузчык Эдуард Іосіфавіч Сушкевіч, эканаміст Інеса Магамедаўна Каралёва. Ды і генеральнага дырэктара Вячаслава Браніслававіча Вернікоўскага выгадаваў калектыў — у васемнаццаць гадоў пачаў тут працаваць. І не толькі яго.

З асабістых назіранняў ведаю, што кіруючыя пасады на «Прамені» займаюць у асноўным яго выхаванцы.

— Мне хутка на пенсію, а здаецца, што толькі ўчора ўладкавалася на абутковую фабрыку, — успамінае Л.І.Валюк...

Закончыла дзяўчына школу, не змагла набраць прахадны бал у інстытут. Так аказалася Ларыса Іванаўна на фабрыцы. Вечарамі займалася ў тэхнікуме, потым — завочнае аддзяленне інстытута. І адначасова падымалася па службовай лесвіцы — майстар, канструктар, а зараз узначальвае эксперыментальны цэх, адкрывае дарогу да масавага спажыўца новым мадэлям дзіцячага, жаночага, мужчынскага абутку, які адпавядае сучасным патрабаванням моды. І не толькі да свайго, беларускага пакупніка.

Партнёрамі аб'яднання з'яўляюцца бізнесмены Канады, Польшчы, Славеніі, Літвы, Латвіі. У гэты складаны час без дружбы, без такога цеснага супрацоўніцтва цяжка было б выстаяць «Праменю». Тут сёлета выпусцяць прадукцыі не менш, чым летась. Магчыма, крыху і больш. Ёсць упэўненасць і ў тым, што з наступнага года пачнецца няўхільнае аднаўленне страчаных аб'ёмаў.

Знаходзяцца сродкі і на далейшае развіццё вытворчасці, паляпшэнне ўмоў працы. Узведзены новыя карпусы, а будаўніцтва працягваецца і зараз — у Мінску, на філіялах у Маладзечне, Уздзе і Мар'інай Горцы.

Характэрная дэталь, якая гаворыць аб фінансавай устойлівасці аб'яднання. Тут яшчэ ні разу не затрымалі выплату зарплаты. Да таго ж, яна пастаянна расце. Да юбілею яе зноў павысілі.

Нямала грошай укладваецца ў аздараўленчыя лагеры, дзіцячыя сады, на вырашэнне іншых сацыяльных пытанняў.

У аб'яднанні не паддаюцца разгубленасці, а маюць у запасе некалькі варыянтаў, каб у любой сітуацыі забяспечыць нармальны рабочы рытм і адправіць пакупніку дыхтоўны абутак. Робіцца ўсё магчымае, каб промні «Праменя» зіхацелі як мага ярчэй.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ Канверсія

# НА КАЛЕНЯХ,

## ці Хто зможа разабрацца ў нашым дзікім рынку

Вось ён, дыплом з адзнакай, на руках. Прапаноўвалі аспірантуру. Падольскі ж вырашыў — спачатку вытворчасць, а потым і навукай можна заняцца.

У аб'яднанні «Інтэграл» маладога спецыяліста сустрэлі цёпла. Спыталі, кім хоча быць: тэхналагам ці майстрам?

— Дзе колькі плацяць? — пацікавіўся Віктар. Лішні рубель яму не перашкодзіў бы, паколькі ніадкуль дапамогі не прадбачылася, жыў на сваім хлебе.

— Тэхналагу 95 рублёў, майстру — 100.

— Тады майстрам.

I па тых часах, дваццаць з лішнім гадоў назад, аплата працы інжынерна-тэхнічных работнікаў была ў нас мізэрная. Не песцілі іх вялікімі акладамі. Выйсце адно — практычнымі справамі даказвай свае арганізатарскія здольнасці ды паднімайся па службовай лесвіцы наверх. Без адрыву ад вытворчасці заканчвае Падольскі і аспірантуру. Цяпер ён — намеснік дырэктара завода «Электроніка» па маркетынгу і збыту.

Магчыма, гэта і некарэктнае параўнанне, але Віктар Анатольевіч лічыць, што сённяшняе становішча іх аб'яднання, як і ўсёй эканомікі ў цэлым, падобнае на яго жабрацкі жыццёвы ўзровень у пачатку працоўнай дзейнасці. Бо калісьці для іх ніякіх праблем з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем і фінансамі не існавала. Прастой нават невялікага прадпрыемства хаця б на некалькі гадзін вымагаў прыняцця крутых мер да вінаватых. А здарыся падобнае з «Інтэгралам», адразу ж «паляцелі б галовы» многіх.

Яно і не дзіўна. Абаронка была самай элітнай галіной народнай гаспадаркі. Кіраўнікі яе вытворчасцей лічыліся генераламі індустрыі, і ніхто з іх не меў ні ў чым адмовы. Там быў створаны магутны навукова-тэхнічны патэнцыял, яе многія распрацоўкі пераўзыходзілі лепшыя замежныя ўзоры аналагічнага тыпу. Парад суверэнітэтаў былых саюзных рэспублік разбурыў усё, паставіў на калені і абаронку.

— Раней кожная другая інтэгральная схема, кожны чацвёрты дыёд у Саюзе выпрацоўваліся на «Інтэграле». Пачалася канверсія, і наша асноўная прадукцыя — для космасу і ракет, іншыя тавары аказаліся нікому не патрэбныя. Давялося згортваць аб'ёмы, дэманціраваць і прадаваць высокакласнае абсталяванне, — гаварылі мне інтэгралаўцы.

— У месяц мы выпускалі па 400—450 тысяч гадзіннікаў «Электроніка», а зараз у два разы менш, — уносіць больш канкрэтны змест у нашу размову В.А.Падольскі. — I не таму, што іх нельга рэалізаваць. Стаім з-за адсутнасці матэрыялаў...

Нашу «экскурсію» па заводзе адміністрацыя спецыяльна прымеркавала да перазменкі, каб мы самі ўбачылі рэальнае становішча спраў. У першай змене няпоўная была загрузка людзей, у другой амаль усе рабочыя месцы пуставалі. Не змаглі мы паглядзець, як працуюць робаты — іх устанавілі два гады назад, кожны замяняе да пятнаццаці зборшчыц.

Прастоі абумоўлены не дэфіцытам неабходных матэрыялаў. Яны ёсць у дастатку, няма толькі чым за іх разлічвацца. Неплацяжы — вось што падсякае калектыў пад корань. Са сваіх, беларускіх спажыўцоў вельмі цяжка спагнаць плату за адгружаную прадукцыю. А што ўжо гаварыць аб блізкім замежжы! У першую чаргу — аб Расіі. Яе гандлёвыя арганізацыі запазычыліся «Інтэгралу» 1.260 мільёнаў расійскіх рублёў.

Можна, вядома, звярнуцца і ў Арбітражны суд. Толькі ці будзе якая карысць ад гэтага?

— Гандаль там у асноўным прыватызаваны. Сварыцца з ім — сабе на шкоду. Адмовяцца ад нас, будуць мець справу з замежным вытворцам. Расійскі рынак і так запаланіў масавы шырспажыў з Тайваня, Кітая, Турцыі... Даводзіцца праяўляць дыпламатычныя хітрыкі для ўмацавання на ім сваіх пазіцый, — растлумачылі нам кіраўнікі «Электронікі».

Не адчуваецца дзейснай дапамогі ў вырашэнні вострых праблем канверсіі і з боку ўрадавых органаў.

Мне даводзілі, што нават кіраўнікі Беларусі не ведалі ўсяго таго, што звязана з прадпрыемствамі абароннай прамысловасці, яе аб'ёмамі і магчымасцямі. Калі ж яна перайшла ў рэспубліканскую ўласнасць, то за галаву схапіліся, убачыўшы, якое багацце нам дасталося. Аднак распарадзіцца ім па-разумнаму не змаглі. Наш Дзяржкампром разгубіўся, нічога талковага не змог прыдумаць па вызначэнню асноўных напрамкаў развіцця абаронкі. Пусцілі яе ў свабоднае плаванне: маўляў, няхай сама змагаецца за сваё выжыванне, на тое і рынак.

Нам жа да яго яшчэ далёка. Перш чым ствараць штосьці новае, пад яго спачатку падводзяць надзейны фундамент. Мы ж рыначныя адносіны набудавалі на пяску — не падмацавалі іх адпаведнымі эканамічнымі законамі. Затое падаткі абдзіраюць вытворцу як ліпку. I правільна гавораць на «Інтэграле»: «Калі кожны дзень усё мяняецца, на добрае не разлічвай. У нашым дзікім рынку ніхто не можа разабрацца, і пры такой сітуацыі немагчыма нармальна працаваць. Патрэбны разумныя правілы гульні, інакш эканоміка не выплыве з глыбокага крызісу і на ёй варта ставіць крыж. Дзе вы бачылі, каб курыцу, якая нясе залатыя яйкі, чалавек марыў голадам, прымушаў самастойна шукаць для сябе корм?»

А такой «курыцай» для дзяржавы з'яўляецца абаронка. Магчымасці яе ў асваенні новых канкурэнтаздольных і тэхнічна складаных відаў прадукцыі неабмежаваныя. Аднак без шырокай падтрымкі і дапамогі з боку органаў улады цяжка заявіць аб сабе на ўвесь голас, прарвацца на той жа замежны рынак, куды нас не вельмі пускаюць. Наша знешнеэканамічнае ведамства павінна не толькі выдаваць ліцэнзіі на вываз прадукцыі за мяжу, а і рэкамендаваць канкрэтныя адрасы, дзе гатовы супрацоўнічаць з намі на ўзаемавыгаднай аснове. Для чаго неабходна валодаць кан'юнктурна-дзелавой інфармацыяй аб становішчы на сусветным рынку і прагназіраваць тэндэнцыі яго развіцця. На дзяржаўным узроўні гэтага дабіцца лягчэй, чым на асобна ўзятым прадпрыемстве.

— Добрае пажаданне, — усміхнуліся мае субяседнікі, — але на іншых спадзявацца — марная трата часу. Не трэба спаць у шапку. Пакуль сам не крутанешся, ніхто не прывядзе да цябе заказчыка.

Што праўда, то праўда. Подступы да рынку прымушаюць мяняць адладжаны дзесяцігоддзямі стыль работы, ствараць новыя структуры. У прыватнасці, службу маркетынгу, прыцягваць да яе маладых, энергічных і разваротлівых людзей. Яны ж занялі і кіраўніцкія крэслы на прадпрыемстве.

Тактыку іх дзеянняў вызначае пакупнік, з якім апынуліся сам-насам. Да прывычных нам гадзіннікаў «Электроніка» дабаўляюцца іншыя вырабы — тэлефонныя апараты, двухтарыфныя электралічыльнікі, апаратура, павышаючая яркасць лямп дзённага святла ў два разы. На падыходзе расходамеры гарачай і халоднай вады. Механічныя, як і спідометр аўтамабіля, можна падганяць пад патрэбны вынік. Электронны ж блок не здольны на «махінацыю».

Атрыманы сертыфікат на электронныя тэрмометры. Першыя чатыры тысячы штук хутка разышліся, у бліжэйшы час яшчэ шэсць тысяч выпусцяць. Паступова іх выраб будзе павялічвацца, паколькі заказчыкаў становіцца ўсё больш. Тэрмометрамі зацікавіліся грэкі. Пробную партыю ўзялі і кітайцы. Яны ж «паклалі вока» і на мікракардыяаналізатар. З іх боку ёсць прапанова стварыць разам з «Электронікай» сумеснае прадпрыемства менавіта ў Кітаі. I вось чаму.

Самае галоўнае ў названых вырабах — крышталь. А інтэгральныя мікрасхемы распрацоўваюць і выпускаюць толькі ЗША і Японія. I яшчэ — «Інтэграл». Яны не горшыя за японскія ці амерыканскія, аднак таннейшыя. Там сусветна вядомыя фірмы, адсюль і цана такая высокая. А мінчан мала хто ведае. Кітайцы ж, ствараючы ў сябе сумеснае прадпрыемства, тым самым набываюць тэхналогію вытворчасці інтэгральных мікрасхем. «Электроніку» ў сваю чаргу вабіць Кітай як неабсяжнае поле збыту сваёй прадукцыі.

На такой вось узаемавыгаднай аснове на «Інтэграле» мяркуюць наладзіць супрацоўніцтва і з амерыканскімі бізнесменамі. Па асобных вытворчасцях, адзначылі яны, у аб'яднанні на некалькі крокаў ідуць наперадзе іх.

Болевых кропак у электроншчыкаў няамала. Лечацца ўласнымі сродкамі. Выздараўленне пайшло б хутчэй, калі б вырашэнне праблем канверсіі не аддалі на водкуп адным толькі вытворцам.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*





■ Фоторепортаж

# Загадочная аббревиатура — УВД

/Окончание. Начало на 1-й стр./

Идет криминальная война — изменчивая, непредсказуемая. Ну кто, скажите, мог предугадать, что убийства на бытовой почве возрастут на 30 процентов. Сводки заставляют бледнеть: жена убила мужа, муж ударил ножом в сердце жену, сожитель лишил жизни свою пассию, сын убил отца... И повинен в этом, в основном, "зеленый змий", ползучей контрою проникший чуть ли не в каждый дом. Спиваются женщины, дети, иногда целая деревня. Спиртное доступно в любое время суток. Кто в этом виновен — будут разбираться потом. Когда уже будет поздно или почти поздно. Но в чем я более всего уверена, — что по инерции виновником окажется милиция. Этого недоглядела, это проворонила. Хотя у сотрудников милиции есть свое суждение на этот счет. Но не в их правилах отводить огонь от себя. Привычно вскинув руку под козырек, они, засучив рукава, опять начнут исправлять чужие ошибки, просчеты. Пока в сладкой дреме будут пребывать общественные организации, которые должны бороться с пьянством, пока социологи будут вычислять — как это случилось, что общество породило чудовищного монстра, не сумев победить его изначально?

К каждому "пьяному" заведению милиционера не приставишь. Равно как и к офису, коттеджу, дому. Захлестывают кражи государственного, личного имущества. Советов, как избежать беды, превеликое множество. Но почему воровство растет? Беспечны мы, спешим открыть дверь, не спрашивая кто там, не укрепляем жилище, ленимся присмотреть за дачей соседа. А потом кричим: милиция, на помощь! И приходят, и помогают. Только дремучий старец может вообразить современного Анискина с лупой и фотоаппаратом. Поняв, что в одиночку не уйти от преступных посягательств, бросились помогать правоохранительным органам спонсоры. Отошли в небытие дребезжащие машины, дышащие на ладан. Появилась новая техника, которая запросто вступает в спор с иномарками преступников. И самое главное, в отличие от других организаций, бросавших деньги в котел личных нужд, управление внутренних дел берегло каждую копейку, дабы вложить их в развитие базы будущего, что формируется приблизительно так: компьютеризация всей системы. Нужно отдать должное: за годы бесполезных слез о наших неудавшихся реформах, пустых дебатов управление внутренних дел, подразделения на местах технически окрепли и стали набирать обороты. В штате УВД появилось больше инженеров-программистов, людей, обладающих навыками работы со сложнейшими приборами. Что это дает? Даже непосвященному ясно, что без компьютерной обработки данных в современном мире не обойтись. Банк данных вечен, при такой блокировке, которой обладают современные машины, его невозможно уничтожить, информацией из банка можно обмениваться с коллегами. Ведь преступность — международное явление.

Незаменимы в раскрытии преступлений эксперты-криминалисты, носители новых идей, как их называют. Основная их работа — с картотеками, коллекциями. Ведь недаром о них говорят: в тиши кабинетов раскрываются преступления.

На первый взгляд, что здесь сложного? Подумаешь, нашли преступника, который совершил кражу из магазина в деревне Юрковичи Логойского района. А ведь доказать, что это так, было далеко не просто. Эксперт изъял кусок жести со следами орудия взлома. Затем у подозреваемого нашли топор. А потом путем трассологической экспертизы было доказано, что именно найденный топор и послужил орудием взлома.

А вот в другом случае вора подвели пальцы. В Слуцке по подозрению в краже был задержан на улице человек с вещами. При проверке дактокарты было установлено, что вор "наследил", и не только в последней квартире, но и в других. Пришлось ему сознаться в содеянных преступлениях.

Конечно, не всегда так гладко получается. Бывают и бессонные ночи, и мучительный поиск, не дающий эффекта. Но сотрудники милиции меньше, чем другие, поддаются депрессии и не зацикливаются на неудачах. Они просто и без паники, профессионально делают дело — охраняют нас с вами.

*Ирина АНДРЕЕВА.*

**На снимках:** инженер-программист **Д.К.Ковалевский;** за компьютерами — только девушки; картотечница **Т.Г.Волна;** кабинет профессиональной подготовки.

*Фото Анатолия БАСОВА. г. Минск.*







■ Народныя таленты

# САЛАЎІНЫЯ ГНЁЗДЫ

Прасніца, як вядома, — гэта драўляная прылада для прадзення воўны, ільняной і пяньковай кудзелі. Але сёння размова пойдзе пра іншую прасніцу. Менавіта пра ансамбль народнай песні Каралёўскага СДК Уздзенскага раёна. Калі прасніца-прылада ў сувязі са змяншэннем ролі ручнога прадзення і ткацтва паступова выходзіць з ужытку, то уздзенская «Прасніца» ўсё больш і больш становіцца папулярнай. Свае канцэртныя праграмы гэты калектыў паказаў амаль ва ўсіх клубных установах раёна. Для самадзейных артыстаў выезды ў аддаленыя вёскі сталі звычайнай з"явай. Выступалі перад працаўнікамі Дзяржынскага і Пухавіцкага раёнаў. Абаранялі гонар Уздзеншчыны на аглядах народнай творчасці ў Стоўбцах і Мінску. У рэпертуары ансамбля больш за 60 твораў розных беларускіх аўтараў, а таксама народных.

Стварыў гэты калектыў выпускнік Беларускага універсітэта культуры Алег Мікалаевіч Гусараў. Гэта творчы і ініцыятыўны спецыяліст. Ён заўсёды ў пошуку, збірае забытыя народныя песні, умела і прафесійна апрацоўвае іх на сучасны лад.

— Лічу, што нам пашанцавала на такога работніка. Алег Гусараў — добры метадыст. З яго ўдзелам праходзяць заняткі ў раённай школе маладога культработніка. Ён ахвотна дзеліцца сваім вопытам работы з кіраўнікамі харавых калектываў, дае ім слушныя парады, — зазначыла загадчыца аддзела культуры райвыканкома Г.А.Міхальчук.

І яшчэ Ганна Аляксандраўна паведаміла, што ў ансамблі склаліся добрыя традыцыі. Ніводнае свята — вяселле ці радзіны, імяніны ці ўваходзіны — не абыходзіцца без сардэчных віншаванняў, шчырых песень, сяброўскіх падарункаў. Карацей кажучы, удзельнікі калектыву, нібы адна сям"я, хаця розныя яны па ўзросту і прафесіях. Тут і рабочыя цэха мастацкіх вырабаў, і педагогі, і супрацоўнікі дзіцячага сада, і пенсіянеры.

Хутка ансамбль народнай песні «Прасніца» адзначыць яшчэ адну падзею ў сваёй сямігадовай біяграфіі: адпраўлены дакументы ў абласны цэнтр народнай творчасці на прысваенне яму звання «народны».

Шмат такіх песенных салаўіных гнёздаў на Уздзеншчыне.

*Уладзімір КОБРЫН.*

■ Ну і ну!

# КРЭСЛА ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА,

## *ці Куды клічуць нас новыя "апосталы" ад мастацтва*

У сувязі з маючымі адбыцца выбарамі першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь мне прыгадалася выстава выяўленчага мастацтва суполкі "Пагоня", куды ўваходзяць у асноўным актывісты і прыхільнікі БНФ, наладжаная нядаўна ў Палацы мастацтва ў Мінску.

Увагу гледачоў, якія падымаліся па цэнтральнай лесвіцы ў залу, прыцягнуў вялікі "іканастас" /не заўважыць яго было проста немагчыма: ён займаў усю сцяну/ — серыя з пяці партрэтаў на ўвесь рост "Мае сучаснікі" — "выявы лепшых сыноў новай Беларусі" работы мастака А.Марачкіна. Хто ж гэтыя апосталы, якія ведаюць, як весці беларускі народ у "светлую будучыню" і якая яна, гэтая будучыня, у іх уяўленні?

О, ды твары ўсе знаёмыя! Скандальна вядомы Алег Бембель, піяніст па адукацыі, філосаф па месцы работы, аўтар нашумелай кнігі, выдадзенай за мяжой, аб... беларускай мове. Побач з ім Зянон Пазняк, які пачынаў фатографам, тэатразнаўца па адукацыі, гісторык па месцы работы, кандыдат у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Серыю працягвае партрэт Міколы Ермаловіча, філолага па адукацыі, якога БНФ прадстаўляе як вялікага вучонага-гісторыка, які пазнаў Вялікае княства Літоўскае і ролю Беларусі ў ім, а на самай справе, на думку шэрагу вучоных-гісторыкаў, фальсіфікаваў гэтыя пытанні. Тут жа і даволі вядомы падпалкоўнік у запасе Мікалай Статкевіч, кіраўнік Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Замыкае "іканастас" скандальна вядомы мастак Аляксандр Пушкін, які яшчэ студэнтам да жніўня 1991 года заявіў аб сабе як вораг "жыдоў і камуністаў".

Заслугі кожнага з гэтых "апосталаў" нацыі, як бачым, немалыя, каб лічыць іх "лепшымі сынамі новай Беларусі". Гэтых нацыянал-радыкалаў, якія прыйшлі ў вялікую палітыку ад музыкі, тэатра, філалогіі і жывапісу, прадстаўляюць на вядучую ролю ў грамадстве.

Ідэі "апосталаў" вялі да кампазіцыйнага, сэнсавага цэнтра выставы — да дзвюх "інсталяцый". Так называюць арганізатары выставы — члены суполкі "Пагоня" мантаж, зборку з прадметаў, якія адлюстроўваюць сутнасць з"явы "выбар". З чаго ж павінен зрабіць выбар беларускі народ, галасуючы за Прэзідэнта рэспублікі?

Выбіраць ён павінен, вядома, пазнаёміўшыся з інсталяцыяй "Веліч". Гэта крэсла /трон/ з разной "Пагоняй", на якім ляжаць Статут Вялікага княства Літоўскага, шляхецкая шабля, тканы пояс. Завяршаецца гэтая інсталяцыя вялікакняжацкай каронай Літвы, якая выдаецца за беларускую. "Да таго, як Беларусь /Літва/ трапіла пад маскоўскую акупацыю, у Рэчы Паспалітай, нашай федэратыўнай дзяржаве, караля абіралі як прэзідэнта і маглі, калі што, пазбавіць пасады, як спікера парламента. Як напамінак аб тых часах — гэтая мастацкая кампазіцыя... Калі пра гэта будзем памятаць мы ў часе прэзідэнцкіх выбараў, дык не зможа гэта забыць на сваёй пасадзе і абраны намі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь", — так адрэагавала газета "Літаратура і мастацтва" на гэты "твор мастацтва", падтрымліваючы свайго кандыдата, дастойнага гэтага каралеўскага крэсла — З.Пазняка.

Інсталяцыя "Рублёвая зона" паказвае, што сувязь з Расіяй зусім не па душы членам "Пагоні". Гэта — "агітацыйнае смецце камуністычнай мінуўшчыны", — лічаць яны.

Адкрыццё выставы нагадала палітычны мітынг, дзе выступілі З.Пазняк — "апостал" ад мастацтва, кандыдат у Прэзідэнты, "бацька Рэспублікі Беларусь", і яго "аднадумцы". Палітыка ўзяла верх над мастацтвам.

Пакідаючы гэтую выставу, я задумалася: куды ж цягнуць беларускі народ прадстаўнікі БНФ? У сярэдневякоўе з ідэалізаванымі каралямі-прэзідэнтамі, шаблямі, уяўнай незалежнасцю Беларусі, нянавісцю да рускага народа, "у Эўропу", далей ад Расіі, ад агульных з ёю каранёў?

Шумна было на адкрыцці выставы, а назаўтра.. пустая зала.

Які выбар зробіць Беларусь? Нельга забываць, да чаго давялі свае суверэнныя рэспублікі "дэмакраты" ад мастацтва, ад філалогіі. Ці патрэбна нам паўтарэнне варыянтаў Літвы, Грузіі, Азербайджана?..

*Дзіна ТРЫЗНА, член Мінскага гарадскога клуба гістарычных ведаў.*

**Эфир-дайджест**

***Радио "Свобода"***

Ирак хочет заключить с Россией контракты на строительство и реконструкцию разрушенных во время войны в заливе гидроэлектростанций. Стоимость работ оценивается примерно в 20 миллиардов долларов. Есть заманчивые перспективы и для оборонщиков. Среди оставленных в 1990 году проектов – строительство двух военных заводов по ремонту самолетов и сборке танков стоимостью 8 миллиардов долларов.

В области финансов вера в доллар подорвана слабостью президента Клинтона во внешнеполитических вопросах и даже расследованием его личных финансовых дел. Специалисты считают, что скупка долларов банками укрепит американскую валюту. Но надолго ли? Смысл этого шага, предпринятого совместно центральными банками мира, в том, чтобы избежать дальнейшего падения стоимости доллара по отношению к японской йене, немецкой марке и основным европейским валютам. Снижение стоимости доллара означает для стран Европы и Азии, что их товары, экспортируемые в США, повысятся в цене и проиграют в конкурентной борьбе с американскими товарами. Германия, Франция и Россия очень рассчитывают, что экспорт поможет им преодолеть экономические трудности.

■ Социальный ракурс

# ОТГОВОРКА ПЕНСИЮ НЕ ЗАМЕНИТ

Фонд социальной защиты населения Республики Беларусь начал свою работу с 1 июня 1993 года. Как самостоятельная финансово-кредитная система, на которую возложены довольно объемные функции. Во-первых, сбор и аккумуляция страховых взносов, предназначенных для пенсионного обеспечения, выплат пособий и материальной помощи. Затем — международное сотрудничество по проблемам, связанным с социальным страхованием, финансированием государственных пенсий, пособий. Оздоровление трудящихся. Материальная помощь малообеспеченным, а также контроль за своевременным и полным поступлением страховых взносов.

Успешное выполнение этих задач зависит в первую очередь от платежной дисциплины страхователей, то есть предприятий и организаций, кооперативов, предпринимателей, фермеров.

Как же решаются вопросы своевременности перечисления страховых взносов на счет Фонда? Надо отдать должное основной массе страхователей, которые понимают социальные проблемы населения и свое значение в их решении. Такие предприятия, как «Беларуськалий», завод пластмассовых изделий /г.п. Руденск/, колхозы «1-е Мая», «Шипяны», "Звезда" Смолевичского района, борисовские заводы — консервный и «Красный металлист», Клецкий районный отдел социального обеспечения, Молодечненский горисполком, Столбцовский плодоовощной завод и многие другие с государственным пониманием относятся к решению проблем защиты пенсионеров, детей и инвалидов.

Однако немало и таких руководителей, главных бухгалтеров, которые данные вопросы отдают на откуп рядовым работникам экономических служб. Более того, некоторые из них не понимают сути страховых взносов в Фонд социальной защиты населения. Они эти средства приравнивают к налогам в госбюджет, хотя это в корне неверно. Страховые взносы в наш Фонд включаются в оптовую цену произведенной продукции или оказанных услуг и посредством купли-продажи возвращаются предприятию. Предприятие-производитель или же предприятие, которое оказывает услуги, являются лишь централизованными плательщиками, в конечном результате, народных денег. Предприятия и организации бюджетной сферы финансируются на эти цели из бюджета. И поэтому никакие доводы и отговорки не оправдывают несвоевременности платежей в Фонд социальной защиты населения. Его органам, кстати, даны права налоговой инспекции по применению санкций к нерадивым страхователям. А их, к сожалению, тоже хватает.

За прошлый и четыре месяца этого года областным управлением Фонда проверено 3.314 предприятий и организаций всех форм собственности. В результате доначислено и взыскано страховых взносов 230,1 млн. рублей. Не принято к зачету выплат на местах на 57,1 млн. рублей. Начислено пени и штрафов за несвоевременность и полноту перечисления взносов — 1.429,6 млн. рублей.

Срывы сроков платежей в Фонд социальной защиты населения не позволяют своевременно финансировать выплату пенсий и пособий, защищать престарелых обездоленных людей. Ведь только за май 1994 года областным фондом профинансировано пенсий и пособий на 65 млрд. рублей. И эти выплаты ежемесячно растут.

Областное управление Фонда социальной защиты населения просит всех руководителей, ответственных работников с пониманием относиться к вопросам страховых взносов, не быть тормозом в важном деле.

*Николай ПОДГУРСКИЙ, начальник контрольно-ревизионного отдела областного управления Фонда социальной защиты населения Республики Беларусь.*

